*О, край родны, край прыгожы!..*
**Якуб КОЛАС**

# ВЯТРАК


БЮЛЕТЭНЬ ТВОРЧАГА МАЛАДЗЁЖНАГА АБ`ЯДНАННЯ

№7 *ВЫДАЕЦЦА ТОЛЬКІ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ* 2002 ГОД


*Юны праграміст*

## АНТЫВІРУСНАЯ ПРАГРАМА

**Шаноўныя юныя праграмісты! Сёння ў нашай рубрыцы я хачу вам расказаць аб адной цудоўнай антывіруснай праграме. Яе дадзеныя належаць да новага 32-бітнага пакалення Doctor Web (ці DrWeb), якое ўключае ў сябе набор праграм для Windows 95/98/NT, DOS/386, OS/2 і Novell NetWare.**

*Працяг на старонцы 7*

## «ВЕТРАКУ» - 2 ГАДЫ

Як хутка ляціць час. Здаецца толькі заснавалася арганізацыя, а ўжо праіснавала два гады. Ды не проста праіснавала, а на карысць свайму народу і сваёй радзіме.

У горадзе Слоніме ў дзіцячай бібліятэцы прайшло светкаванне з дня заснавання другой гадавіны ТМА «Вятрак». Падчас мерапрыемства прайшла і выстава малюнкаў ветракоўцаў.

Ва ўтульнай чытальнай зале бібліятэкі абмяркоўваліся вынікі таго, што наша арганізацыя зрабіла за мінулы год, а таксама тое, што плануем зрабіць у наступным.

Сярод гасцей былі праведзены конкурсы, а Сакалоў Валерый і бард Іванка парадавалі іх сваімі выступленнямі на гітары. Свята прайшло – добра.

**Алег ШЭЛЕСТАЎ**



## ТРЭЦІ СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Зацверджаны статут быў у студзені 1588 года князем Жыгімонтам III. Збор законаў на той час быў самым перадавым у Еўропе. Рыхтавалі яго найлепшыя правазнаўцы Вялікага княства пад кіраўніцтвам канцлера Астафея Валовіча і падканцлера Льва Сапегі. Самае галоўнае, што статут быў напісаны на беларускай мове, бо яго тэкст разумела пераважная большасць насельніцтва нашай дзяржавы, тым часам як у краінах Заходняй Еўропы крысталіся законамі, выкладзенымі на незразумелай паспалітым людзям латыні.

Статут абвяшчаў ідэю праўнай дзяржавы, іначай кажучы, такога парадку, калі ўсе

*Працяг на старонцы 2* ↳

*У вашу бібліятэку*

## НОВЫЯ ВЫДАННІ




**Нядаўна выйшаў другі нумар літаратурнага бюлетэня «Look ahead». На старонках выдання змешчаны вершы і проза маладых талентаў. Акрамя гэтага на апошняй старонцы бюлетэня можна размясціць сваю аб`яўку на любую тэму. Замовіць «Look ahead» можна па адрасу: г.Слонім-2, а/с 27, 231825.**




**Саюз Маладых Паэтаў рыхтуе да выпуску свой першы нумар паэтычнага бюлетэня «НАТХНЕННЕ», які выйдзе накладам 150 ас.**

# ТРЭЦІ СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

## (ПРАЦЯГ З ПЕРШАЙ СТАРОНКІ)

ворганы і службовыя асобы павінны ў сваёй дзейнасці кіравацца толькі правам.

Кодэкс законаў княства замацоўваў яго суніверытэт, грамадскі і дзяржаўны лад, права і абавязкі жыхарства, прынцыпы судовага ладу. Статут заканадаўча сцвярджаў ідэю рэлігійнай талеранцыі і бараніў правы ўсіх жыхароў незалежна ад веравызнання. Вялікі князь быў абавязаны захоўваць недатыкальнасць межаў дзяржавы і вяртаць страчаныя раней землі. Чужаземцам (найперш гэта датычыла палякаў) забаранялася займаць у нашай краіне дзяржаўныя пасады, набываць зямлю, ганаровыя званні.

Вольныя людзі паводле закону ні за якае злачынства не маглі быць аддадзены ў няволю. Кожны вольны чалавек меў права выехаць за мяжу, абы гэта не рабілася на шкоду Бацькаўшчыне.

Грунтоўна было распрацавана ў статуце крымінальнае права. Уводзілася прэзумпцыя невінаватасці, паводле якой чалавек не лічыцца злачынцам, пакуль яго віна не даведзена судом. Закон усталёўваў адказнасць шляхціца за забойства простага чалавека, вызваляў ад смяротнага пакарання цяжарных кабет, прадугледжваў больш суровую кару за злачынствы супроць жанчын. Параўнальна з іншымі Еўрапейскімі краінамі сістэма пакаранняў была гуманнейшая: вызваляліся ад крымінальнай адказнасці дзеці і падлеткі да 18 гадоў, псіхічнахворыя людзі, а часам і тыя, што ўчынілі злачынства «па глупстве».

Мусіць упершыню ў Еўропе статутам абаранялася прырода. За разбурэнне скалінага або лебядзінага гнязда ліхадзей плаціў ад трох да шасці коп грошай, за адлоў ці адстрэл бабра - ад двух да чатырох. (Для параўнання: рабочы вол ці жарабец каштавалі тады дзве капы.)

Статут замацоўваў нашу тагачасную мову як дзяржаўную: на ёй складаліся дакументы, ішлі лісты з канцылярыі вялікага князя, на ёй гаварылі і пісалі гаспадары і ўсе галоўныя асобы княства. У прадмове да збору законаў Леў Сапега з гонарам зазначыў: *«А калі катораму народу ўстыд праў сваіх ня ўмеці, пагатоў нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы спісаныя маем і кождага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды, ведаці можам».*

***Падрыхтаваў,* Алег ШЭЛЕСТАЎ**

## ЧЫМ МОЖА ГАНАРЫЦЦА НАША КРАІНА?

**З такім пытаннем звярнуўся карэспандэнт «ВЕТРАКА» да некаторых свядомых маладых людзей. Адказы былі наступнымі:**

**Хамякова Юлія:** *Мая цудоўная краіна вельмі багатая сваімі лясамі, рэкамі і азёрамі. Яна вельмі-вельмі прыгожая. Але акрамя цудоўнай прыроды ў Беларусі жывуць і цудоўныя людзі, сярод якіх знакамітыя дзеячы (гісторыкі, пісменнікі, паэты). А самае, на маю думку, галоўнае, што ў Беларусі ёсць такія людзі, якія ніколі не скажуць у адрас сваёй Радзімы і народа нічога дрэннага. Гэта — сапраўдныя беларусы.*

**Сакалоў Валерый:** *У прынцыпе нічым, бо наша ўлада не імкнецца да таго, каб Беларусь магла чым-небудзь ганарыцца. БЕЛАЗы ды аўтобусы ў нас не канкурэнтна здольныя. Але людзі ў нас добрыя і таленавітыя толькі гэта трэба заўважыць.*

## АНЕКДОТЫ

**Два школьнікі размаўляюць:**

**– Толькі што мы пісалі кантрольную па анатоміі. Саша атрымаў двойку.**

**– За што?**

**– За шпаргалку. Настаўніца падлавіла яго, калі ён лічыў у сябе рэбры.**

***

**Бацька кажа сыну:**

**– На табе сынок фарбы, ідзі пафарбуй вокны.**

**Праз некалькі хвілін сын прыйшоў і пытае:**

**– Тата, а рамы таксама фарбаваць?**

## СЛОЎНІК

**Рыла** – рыдлёўка

**Слепянь** – скульптар

**Частакол** – наркаман

**Штукатур** – падарожжа за 1000 даляраў

## КОНКУРС

**Адказаўшы на наступнае пытанне вы маеце магчымасць атрымаць падарунак ад «Ветрака». Для гэтага трэба даслаць ліст у рэдакцыю з правільным адказам.**

*У якім годзе была адчынена Полацкая акадэмія?*

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ЗАНЯТАК

Заўтра кантрольная па біялогіі!!! Трэба неадкладна ісці да Васі з дзесятага, каб даў мінулагоднія сшыткі па кантрольных работах...

...З такім сябруком не прападзеш. Сёння атрымаў пяцёрку па кантрольнай. Эх, што б я рабіў без Васі!.. Але хопіць. Трэба рыхтавацца да лабараторнай па фізіцы.


**Любімы занятак многіх хлопцаў – піць піва і іншыя спіртныя напоі...**

## САКАЛОЎ ВАЛЕРЫЙ

*Калі б я ведаў, як і дзе*
*Мяне сустрэне мая маці?*
*Калі б я ведаў, хто ідзе*
*Па той дарозе ваяваць?*

*Калі б убачыў я святло,*
*Што зіхаціць над галавою,*
*Тады якраз было б відно,*
*Дзе той, хто йдзе да нас з*
*вайною.*

*Калі б я змог прачнуцца зноў*
*І ўбачыць неба над сабою,*
*Калі б зайграла ў жылах кроў –*
*Не прачынаўся б я ніколі.*

*Калі з вайною можна жыць –*
*Лічыце, што я ўжо загінуў.*
*Калі, грабучы, нельга плыць,*
*То я даўно зямлю пакінуў.*

*А калі ўсё наадварот,*
*То можна жыць і весяліцца.*
*Танцуй, спявай, жыві, народ,*
*І – не дай, Божа, памыліцца!*

## ТРЫЯЛЕТ

*Чыстая, вясёлая вада*
*З красавіцкім сонейкам у згодзе,*
*Як іскрыцца і звініць яна –*
*Чыстая, вясёлая вада.*

*Коцяцца з пагоркаў ручайкі,*
*Траўка паказалася ў гародзе.*
*Чыстая, вясёлая вада*
*З красавіцкім сонейкам у згодзе.*

**Вольга ЛЮДЗВІКОЎСКАЯ**



## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА – ЗНАКАМІТЫ ДЗЕЯЧ БЕЛАРУСІ

Францыск Скарына застаўся ў гісторыі як беларускі і Ўсходнеславянскі першадрукар. Застаўся, як выдатны перакладчык з некалькіх старажытных моў. Кнігі, якія ён выпускаў, аздобліваў высокамастацкімі гравюрамі, па якіх можна было вывучаць тагачаснае жыццё – побыт, адзенне, тэхніку будоўлі. Смела адступаючы ад канонаў, ён падаў у бібліі ўласны партрэт.

Дарэчы, 1990 год ЮНЭСКО абвясціла годам Скарыны. Яго 500-годдзе адзначалася ў Беларусі, Літве, Латвіі, ЗША, Аўстраліі, Расіі, Польшчы – паўсюль, дзе жывуць беларусы, дзе ведаюць пра нашага выдатнага суайчынніка.

**У вёсцы Мірная, Слонімскага раёна адчыняецца арганізацыя *«Саюз маладых паэтаў» (СМП)*. Калі вы пішаце вершы, то дасылайце іх у наш саюз па адрасу: <u>231825, Слонімскі р-н, в.Мірная, 18, Сакалову Валерыю.</u>**

**Таксама калі вам ад 12 да 18 год, то вы можаце стаць удзельнікам нашага саюза. Вершы прымаюцца на любой мове, асабліва на беларускай.**

Заснавльнікам і першым кіраўнікам СМП з`яўляецца Сакалоў Валерый. Па любым цікавячым вас пытанням, можна звярнуцца да яго па тэлефоне (01562) 9-13-75

## Восень

*Шэрае неба, ляцелі птушкі ад нас*
*Лісце жаўцее, восені час!*
*Лісце шалясціць пад нагамі*
*Кожны дзень сустракаем з даждж'амі.*

*Вецер холадам нас абмывае*
*Восень, гэта восень нас абдымае.*
*Наўкола цішыня... А дзе лета шумнае, што было з намі?*
*Лета прайшло... Ужо збор ураджаю.*

***Трафімец Ульяна***

## БЕЛАРУСКІЯ КЛАСІКІ

А. Пушкін, М. Лермантаў, У. Шэкспір, Ф. Петрака і г. д. Усё гэта паэты-класікі сусветнай літаратуры. А ці ёсць у беларусаў свае класікі і іх класічныя творы? Канечне ёсць! Сярод іх такія як Мікола Гусоўскі, Францыск Скарына, Францішак Багушэвіч і, канечне, тры гіганта беларускай паэзіі – Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч. Гэта і ёсць беларускія класікі і іх творы, якія не пакідаюць нас. Усё гэта надоўга застаецца ў памяці і сэрцы. І калі беларус не ведае гэтых імён, то гэта фіктыўны беларус, а калі прасцей, то не беларус.

Паўстае пытанне: чаму мы цураемся гэтай паэзіі? Беларускай паэзіі. Беларускага слова. Слова, якое аб`ядноўвае ўсіх нас.

Не трэба цурацца роднай мовы. І нават калі ты ўпэўнены рускі, хоць час ад часу цікаўся беларускай мовай, бо ты жывеш у Беларусі, краіне блакітных рэк і азёр.

**Валерый САКАЛОЎ**

## <u>АЛЕГ ШЭЛЕСТАЎ</u>

**Давайце дружна ўсе пачнем**
**Па-беларуску размаўляць**
**І крыкнем як мага гучней –**
***«Нам мову трэба ратаваць!»***

***

**Я буду чакаць і верыць у тое,**
**Што прыйдзе час для нас такі:**
***І слова беларускае святое***
**Уздымецца з глухіх магіл.**

# КАСЦЁЛ У НОВЫХ ДЗЕВЯТКАВІЧАХ

***У нумары 4 мы пісалі пра гістарычны помнік – касцёл у вёсцы Новадзевяткавічы. Тады наш карэспандэнт не змог знайсці ніякай інфармацыі пра яго. Але дзякуючы Аляхновіч Андрэю, з арганізацыі «Малое Палессе», інфармацыя з`явілася. Дзякуй Вам!***

Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла знаходзіўся за тры вярсты ад вёскі. У 1869-1871г.г. паводле праекта архітэктараў Ціхвінскага і Кжыжаноўскага перабудаваны пад царкву. Але ў 1920-я – зноў касцёл.

Касцёл з`яўляўся творам архітэктуры барока. Храм быў вырашаны 1-нефавым аб`ёмам з паўкруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. З перабудовай пад царкву яго арзітэктура набыла рысы ратраспектыўна-рускага стылю. Над порцікам франтальнага 2-яруснага фасада ўзвышаўся шпіль званічкі, якая ў час перабудовы была заменена на 8-гранны барабан з цыбулепадобным купалам, а галоўны ўваход аформлены старажытна-рускім рундуком, вуглы плоскаснага фасада аформлены калонкамі-бочкамі. Унутры перакрытай цыліндрычным скляпеннем малітоўнай залы над уваходам на 4-х слупах навісалі хоры, 3 алтары былі счасаны, крыпта замуравана.

Перад храмам стаяла 2-ярусная званіца-брама – твор барочна-класіцыстычнай архітэктуры. Першы 4-гранны ярус быў руставаны, над прамавугольным праездам меў гербавы картуш з «Пагоняй». Другі ярус-звон меў у аснаванні валютныя сплывы і завяршаўся фігурным купалам з гадзіннікам-курантамі.

***Паводле кнігі «Каталіцкія храмы на Беларусі»***



# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА

**У горадзе Гродна выпускаецца бюлетэнь «Краязнаўчая газета». У ім друкуецца інфармацыя з усёй Гродзеншчыны.**

**Так што калі вы захочаце атрымаць «Краязнаўчую газету», то адпраўце ліст па адрасу: г.Гродна, а/с22, 230023.**

# ГІСТОРЫКА З`ЯВІЛАСЯ Ў СЛОНІМЕ

**У студзені ў Слоніме прайшоў ініцыятыўны сход па стварэнню Слонімскай філіі агульнарэспубліканскай арганізацыі «Гісторыка». Адным з ініцыятараў з`яўляецца Зміцер Трафімовіч.**

У планах арганізацыі – правядзенне гістарычных віктарын па веданні гісторыі Слоніму ды агульнагарадскога гістарычнага спаборніцтва сярод школьнікаў.

**«Трэці СЭКТАР»**

# МУЗЫЧНЫЯ НАВІНЫ



**Віктар Цой... Гэтае імя застаецца ў памяці большасці на ўсё жыццё. Колькі добрых песен ён выконваў, якія актуальныя і цяпер. Акрамя гэтага Цой маляваў добрыя малюнкі. Таму, сябры, калі вы хочаце атрымаць у падарунак вялікі постэр свайго куміра, прышліце нам адказ на пытанне:** ***чым можа ганарыцца наша краіна?***







**ШАНОЎНЫЯ ДАРОСЛЫЯ!**
**МЫ ВАС ВЕЛЬМІ ПРОСІМ АДДАЦЬ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ У БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ ШКОЛЫ/КЛАСЫ/САДОЧКІ. ГЭТЫМ ВЫ ПАСПРЫЯЕЦЕ РАЗВІЦЦЮ НАШАЙ РОДНАЙ МОВЫ.**

# АНТЫВІРУСНАЯ ПРАГРАМА

## (ПРАЦЯГ З ПЕРШАЙ СТАРОНКІ)

Гэтыя праграмы функцыянальна падобныя на традыцыйны DrWeb для DOS. Яшчэ ў версіі DrWeb 4.0 асноўная вірусная база была выдзелена ў асобны файл і падгружалася пасля старта праграмы аналагічна файлам-дапаўненням, што дазволіла вырашыць праблему недахопу асноўнай памяці. Цяпер у DrWeb 32 адбылося раздзяленне праграмы на абалонку, арыентаваную на работу ў канкрэтным асяроддзі і ядро незалежнае ад асяроддзя. Менавіта такая арганізацыя антывіруснай праграмы дазваляе:

*- падключаць ядро да розных абалонак і дадаткаў, што дае магчымасць звычайнай інтэграцыі антывіруснай праверкі з многімі дадаткавымі задачамі.*

*- рэалізаваць механізм аўтаматычнага папаўнення антывірусных баз і абнаўленне версій абалонкі і ядра праз сетку інтэрнэт.*

# ПРОСЬБА

Дзейнасць Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнае вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны. Просім вашыя ахвяраванні дасылаць па адрасу: вул. Румянцава, 13, Менск, 220005, альбо пералічваць на разліковы рахунак ТБМ N30152112330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанку, код 764 праз усякае аддзяленне ашчаднага банку.

## ЗНАЙДЗІ ІМЁНЫ І ПРОЗВІШЧЫ

| | |
|---|---|
| Якуб | Каліноўскі |
| Францыск | Багушэвіч |
| Кастусь | Хмяльніцкі |
| Янка | Караткевіч |
| Мікола | Купала |
| Максім | Штыхаў |
| Багдан | Багдановіч |
| Уладзімір | Колас |
| Георгій | Гусоўскі |
| Францішак | Скарына |

## АНЕКДОТЫ

***

«Бачыш ты, ён мне яшчэ ўмовы ставіць!» - сказаў кампілятар і павесіў сістэму.

***

Калі думка не змяшчаецца ў галаве - заархівіруйце яе.

***

Галоўны рэдактар – Алег Шэлестаў

**«ВЯТРАК» - бюлетэнь творчага маладзёжнага аб`яднання на Слонімшчыне**

*Наш адрас: 231825, в. Мірная, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл., Алегу Шэлеставу. Кантактныя тэлефоны: (01562) 9-11-04, кіраўнік аб`яднання – Алег Шэлестаў; (017) 277-57-75, намеснік – Кацярына Сырамалот.*

**Нумар падрыхтаваны і звёрстаны на настольным абсталяванні ТМА «Вятрак»**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ ЗНАКАМІТЫХ ДЗЕЯЧОЎ БЕЛАРУСІ
### (ТЭСТ)

**1. Ці ведаеце вы імя і прозвішча першадрукара Беларусі?**

а) Амерыга Каліна – 0 балаў.
б) Францыск Скарына – 1бал.
в) Бразільск Рабіна – 0 балў.
г) Адам Міцкевіч – 0балаў.
д) Васіль Быкаў – 0 балаў.

**2. Назавіце імя і прозвішча кіраўніка народнага паўстання?**

а) Братусь Маліноўскі – 0 балаў.
б) Мікола Гусоўскі – 0 балаў.
в) Татусь Пружыноўскі – 0 балаў.
г) Кастусь Каліноўскі – 1 бал.

**3. Ці ведаеце вы знакамітага дзеяча тэатральнага мастацтва Беларусі?**

а) Кент Бунін-Дударэвіч – 0 балаў.
б) Вінцэт Дунін-Марцінкевіч – 1 бал.
в) Дацэнт Губін-Званарэвіч – 0 балаў.
г) Асістэнт Шубін-Кажухевіч – 0 балаў.

**4. Назавіце палявы псеўданім знакамітага беларускага паэта.**

а) Міхась Кветкавы – 0 балаў.
б) Міхайла Дзмухавец – 0 балаў.
в) Міхась Васілёк – 1 бал.
г) Мішутка Матылёк – 0 балаў.

**5. Як вы лічыце, хто пісаў пад псеўданімам Змітрок Бядуля?**

а) Дзядзька Самуіла Плаўніка – 0 балаў.
б) Дзядуля Самуіла Плаўніка – 0 балаў.
в) Бабуля Самуіла Плаўніка – 0 балаў.
г) Сам Самуіл Плаўнік – 1 бал.

***Ключ:** падлічыце свае балы.*

***0-1: Вам трэба яшчэ вучыць і вучыць гісторыю роднага краю.***

***2-3: Не дрэнна, але можна і лепш.***

***4-5: Ганарыцеся! Вы сапраўдны беларус, які ведае гісторыю сваёй радзімы.***

**Тэст склаў *Іван ЛІТВІНАЎ***